ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

# ДОБРАЙ РАНІЦЫ, АЛЕСЬ!

Адрэдагавала на грамадскіх пачатках
ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

Малюнкі А. Булай



МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1976

Ад унука Ларысы Геніюш —
Алеся Геніюша 31.03.96.



## ДОБРАЙ РАНІЦЫ, АЛЕСЬ!

Гожы пеўнік на жэрдку залез.
Кукарэкае, крыллем лапоча.
Добрай раніцы, мілы Алесь,
Дарагі, працавіты мой хлопчык!

Звоняць песняй даўно жаўрукі.
Мерыць бусел цыбаты балоты.
Выганяюць кароў да ракі,
Адчыніўшы шырока вароты.

Добрай раніцы, поле і лес!
Дрэвы, сёлы, дарогі бясконцыя!
Добрай раніцы, хлопчык Алесь!
Добрай раніцы, неба і сонца!



# УНУКІ

Доўга, доўга бег цягнік,
Покуль не спыніўся.
Ён марудзіць не прывык,
Вось і замарыўся.
І прыехалі да дзедкі
Ўнукі-малышы ў адведкі.
Глянцам ззяюць клункі —
Гэта падарункі:
Дзеду — акуляры
Ў дарагім футляры.
Бабулі — хусцінку —
Вясёлкі часцінку.
Дзед вітае:
— Мае дзеткі! —
І бабуля:
— Мае кветкі! —
І Тарзанчык: «Гаў-гаў-гаў!»
І кот Мурзік: «Мяў-мяў-мяў!»
Ўнукі цешацца і скачуць.
А бабуля з дзедам плачуць.
— Гэта з радасці, унукі,
Пасля доўгае разлукі.



# ЛЕС

Не было журботна ў лесе:
Кожны жыў там, як хацеў,
Ад птушыных, весніх песень
Лес на ўсе лады звінеў.
Пахаджалі там лісічкі,
Бегаў зайчык невялічкі,
Пралятали там арлы
Ды праходзілі зубры.
Хараша было усім —
І дарослым, і малым.
Раптам з поўначы, здалёк,
Там з'явіўся страшны воўк
І сказаў:
— Цяпер, звяры,
Я начальнік у бары.
Будзь тут кожны паслухмяны!
Каб не беглі на паляны
Быстраногія казулі!
Каб мядзведзі карак гнулі!
Каб не швэндаліся зайцы —
Галадранцы, пабягайцы!
Зубр жа, хоча ці не хоча,
Хай, як я, раве па-воўчы!

Не жывуць звяры — бядуюць,
Свайго голасу не чуюць.
Пушча днём раве і ўночы
Адной нотаю — па-воўчы.
Хто ж уздумае іначай —
Болей сонца не пабачыць.





Бег па сцежачцы Алесік...
Не чуваць птушыных песень.
Сціхлі дрэвы і кусты.
Лес без птушак, лес пусты.
Лес стары зусім замоўк,
Толькі ходзіць шэры воўк,
Злосна ляскае зубамі
Ды ўсё сварыцца з зубрамі:
— Што за нораў недарэчны —
Не грызуць слабых авечак,
Толькі лісцейка скубуць,
Па-зубрынаму равуць.

Воўк завыў на цэлы лес:
— Бачыце, ідзе Алесь!
І ён будзе мне служыць!
Так, як я, па-воўчы выць!

Тут Алесь схапіў дубіну,
У ваўка з размаху кінуў,
Закрычаў:
— Зубры-сябры!
Ўсіх склікайце, хто ў бары!
Зубы вострыя і рогі —
На ваўка! —
Воўк — у ногі,
Ды зубры яго схапілі
І на рогі падчапілі.

Зноў спакой настаў у лесе.
Салаўі пяюць Алесю.
Скачуць весела ваўёркі.
Пакаціўся вожык з горкі.
На паляне песні, гулі.
Скачуць спрытныя казулі.

Прыляцелі жураўлі.
Птушкі селяцца ў галлі.
Весялей плыве рака,
Як даў воўча драпака.
Зноў пяе вясёла лес.
Не нацешыцца Алесь.





## ЗУБРЫ

Белавежаю крочаць зубры,
Пушчы слаўнае валадары.
І гарбы ў іх крутыя, і рогі.
Саступаюць усе ім з дарогі:
І мядзведзі, і злыя ваўкі
Зразу кідаюцца у бакі.
Толькі зайчык адзін не баіцца.
Скача, скача ля светлай крыніцы.

## ПАВУЧОК



Павучок — ткач-ткачок
Сеў на тоненькі сучок.
Павуцінне сваё праў
І на голлейку снаваў.
Нітку да ніткі —
Камарам на світкі.

## ЧМЕЛЬ

Была ў чмяля жонка —
Рухавая пчолка.
То мядок збірала,
То чмяля частавала.
А ён, надзіманы,
На дыван даматканы
Лёг
і кажа рамонкам:
— Маю дрэнную жонку.
Дома толькі начуе.
Днём паклічу — не чуе.
Мёду мае нямала,
Але вострае джала.





## КАПУСТА

На гародзе стала пуста.
Толькі пышная капуста
Ветру, сцюжы не баіцца:
Мае цёплыя спадніцы.
Гожая, здаровая,
Ўся белагаловая.



## ВАВЁРКА

У лісічкі свая норка.
У вавёркі ёсць каморка.
Як у добрай гаспадыні,
У вавёркі поўна ў скрыні:
Жалуды, арэхі, шышкі.—
Намалюйце іх для кніжкі.

## КАЗУЛІ

Над крыніцай густыя хвоі.
Пад жывою зялёнай стрэшкай
Гнёзды птушак. Да вадапою
Тут казулі праходзяць сцежкай.

Неспакойна стрыгуць вушамі.
Ловяць шорах чуйна ў траве.
Не сустрэцца б толькі з ваўкамі!
Хто не ўцёк ад іх — не жыве.

А вадзіца такая чыстая!
О, гаючы крынічны смак!
Самым першым ідзе ўрачыста
У высокай кароне важак.

Ім насупраць — ваўкі! Трывога!
Шчэрацць зубы, агонь з вачэй.
І казуляў ратуюць ногі,—
Ўсё імчацца шпарчэй і шпарчэй.

У казуляў — ногі, як крылы.
Гэта — іх прыгажосць і сіла.





## НА КАНЬКАХ

Вечар, лёд у агнях,
А над елкай — месяц.
Едуць, едуць на каньках
Міхасёк з Алесем.

Бачаць хлопцы: Таня
То ўпадзе, то ўстане.
— Ой, ізноў я на баку!
Дай хутчэй, Алесь, руку.

— То трымайся, калі ласка.
Дапаможа і Міхаська.
Мы дзяўчатак анідзе
Не пакінем у бядзе.

# ГОД І ЯГО РОД




Год стары дзяцей склікае,
Ён да ўсіх пытанне мае.
Сеў паважна ў крэсла:
— Што, вясна, прынесла?
— Я прынесла травы, кветкі,
Птушкі ў неба, рыбу ў сеткі.
— А я, лета, нясу хлеба,
Маю ягад, колькі трэба,
Ўсё зграбаю сенажаці,
Не сяджу ніколі ў хаце.
Людзям збожжа, дрэву — плод,
Птушкам — гнёзды, пчолам — мёд.
— Я, татуля,— твая восень.
Змалаціла ўсё калоссе.
Ў садзе яблыкі паспелі,
Птушкі ў вырай адляцелі.
Я арэхаў назбірала,
Бульбу ў полі пакапала.
— Я — зіма. Работу маю:
Дол абрусам засцілаю.
Я дні-ночы на хаду.
Пражу белую праду.

Едзе сын, Новы год,—
Вось і ўвесь дзядулеў род.





# Змест






На белорусском языке
ЛАРИСА АНТОНОВНА ГЕНИЮШ
**Доброе утро, Алесь!**
Для детей дошкольного возраста

Адказны за выпуск А. С. Дзеружынскі. Мастацкі рэдактар В. П. Жыжэнка. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Л. М. Вайцяшэня. Здадзена ў набор 4/II 1976 г. Падп. да друку 12/IV 1976 г. Тыраж 42 000 экз. Фармат 70×90 1/16. Папера афс. № 2. Ум. друк. арк. 1,17. Ул.-выд. арк. 1,53. Зак. 2999. Цана 12 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Г $\frac{70801-125}{М 302(05)-76}$ 176-76**

**Бел 2**
**Г 34**

